ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 47 (1684) | Аўторак, 12 чэрвеня 1962 года | Цана 4 кап.

## У ГЭТЫМ НУМАРЫ





Будаўнік... Колькі ў яго працы хараства, паэзіі, дыхання мірнага стваральнага жыцця! Любіць сваю прафесію, ганарыцца ёю Вера Жывалеўская. Ганарыцца яна і сваёй брыгадай, адной з лепшых на будаўніцтве Гродзенскага азотна-тукавага камбіната, якой прысвоена званне камуністычнай працы.

Фота В. ВОЛГІНА.

# СЭРЦАМ І ПЕСНЯЙ СВАЁЙ ПРАТЭСТУЮ

**Р. ШЫРМА,**
**народны артыст СССР**

Я праходжу кожнай раніцай па светлых праспектах роднага горада, углядаюся ў твары тых, хто таксама спяшаецца на работу, і думаю: як гэта добра, калі зямля дыхае мірам, якое гэта шчасце для ўсіх нас! А часам з людскіх твараў я пераводжу позірк на неба. Што б ні абяцала яно сёння людзям — сонца ці дождж — я ведаю: усё роўна дасціпныя хлапчукі запусцяць у вышыню рознакаляровыя паветраныя шары, і галубы будуць лётаць пад мірным небам майго горада. І будзе гучаць песня...

У нашым небе — паветраныя шары хлапчукоў, касмічныя караблі. А там, за акіянам, неба ўзварушылі чорныя грыбы атамных выбухаў. У нас слова «космас» абяцае людзям раскрыццё самай загадкавай таямніцы, абяцае падарожжа ў цудоўны нязведаны край. А на мове амерыканскіх заправілаў Пентагона слова «космас» гучыць як ваенны тэрмін, як новая база, новы плацдарм для будучых наступальных баёў.

Вось чаму ў той дзень, калі я прачытаў у газеце заяву-пратэст Савецкага ўрада супраць ядзерных выпрабаванняў у космасе, на рэпетыцыі нашага хору мне здалося, што нават песні нашы загучалі не так, як заўсёды. Быццам новая нота — нота пратэсту ўлілася ў іх. Так, гэта праўда — і песнямі нашымі аб міры і каханні, аб вясновых ручаях і водары саснавага бору, і сэрцам сваім мы горача пратэстуем. Пратэстуюць мільёны людзей добрай волі планеты Зямля. Няхай слова космас, так гаворым мы, будзе заўсёды сінонімам слову мір. Іншага дапусціць нельга.

Ядзерныя выбухі ў космасе — паскораная падрыхтоўка да новай, страшэннай, спусташальнай вайны, якая прынясе пагібель сотням мільёнаў людзей. Амерыканскіх маньякаў мала цікавіць гэта, як не цікавіць іх і тое, што выпрабаванні ў космасе — гэта цяпер, у мірны час, найвялікшая небяспека для чалавецтва, яны парушаюць фізічныя законы Сусвету, перашкаджаюць людзям вывучаць іх.

Імперыялістаў цікавіць толькі бізнес. Кенедзі чытае ханжаскія малітвы госпаду богу, а сам б'е паклоны жоўтаму д'яблу, клапоціцца пра даходы ракфэлераў, дзілонаў, морганаў і іншых мільярдэраў. Ён усё робіць для таго, каб фінансавыя заправілы тужэй набілі свае кішэні на гонцы ўзбраенняў. Вось чаму ён баіцца мірнага суіснавання з краінамі сацыялізма, вось чаму не жадае падтрымліваць нашы прапановы аб забароне на векі-вечныя ядзернай зброі.

Мы вельмі паважаем таленавіты і працавіты амерыканскі народ, хочам дружыць з гэтым народам. Прапаганда вайны караецца ў нас па закону як крымінальнае злачынства. Мы любім мір, мірную працу, мы хочам дружбы з усімі народамі свету.

Супраць амерыканскіх ядзерных выпрабаванняў у космасе пратэстуюць вучоныя ўсяго свету, у тым ліку і амерыканскія. Пратэстуюць палітычныя і культурныя дзеячы, у тым ліку і амерыканскія. Пратэстуюць міралюбівыя народы многіх краін свету, у тым ліку і амерыканскі народ.

Але гучней за ўсіх чуваць голас самага міралюбівага ў свеце савецкага народа. Заява нашага ўрада супраць амерыканскіх ядзерных выпрабаванняў у космасе з абурэннем асуджае амерыканскія правакацыі і папярэджвае ўрад ЗША, што на яго ляжа ўся адказнасць за пагаршэнне міжнароднага становішча, за магчымыя вынікі, выкліканыя ваеннай падрыхтоўкай навокал зямной прасторы.

Да заявы нашага ўрада далучаем свой голас і мы, працаўнікі культуры і мастацтва Беларускай рэспублікі. Мы адабраем і падтрымліваем яе.

# ДОБРАГА ВАМ НАСТРОЮ!

— Што? Настрой?

Я бачу, як іншы чытач здзіўлена ўзніме бровы і пацісне плячыма: «Як я працую, як трымаю сябе на людзях, урэшце, як стаўлюся да дзяцей і жонкі — калі ласка, цікаўцеся, пішыце... А мой настрой? Выбачайце, гэта нікога не датычыць. Гэта мая глыбока асабістая справа...»

Ці сапраўды так?

А ці ведаеце вы, як адзін паўлітровы слоік сунічнага варэння сапсаваў настрой пяцікласнікам? Не?.. Паслухайце, гэта цікава.

Да Віктара К., начальніка цэха аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў, прыехаў у госці яго бацька, чалавек пажылога веку і, як кожны,—са сваімі вартасцямі і слабасцямі. Адна з яго «слабасцей» — любоў да салодкага.

Увечары, калі селі піць чай, стары, задаволена паціраючы рукі, прагаварыў:

— Эх, добра было б цяпер сунічак!

Віктар, не доўга думаючы, палез у шафу дастаць слоік варэння. Але жонка даволі бессаромна асадзіла яго:

— Не чапай! Гэта для дзіцяці.

Светлы настрой быў у момант засмучаны.

Стары пакрыўдзіўся, а Віктар, пасварыўшыся з жонкаю, у самым дрэнным настроі пайшоў на работу.

Рабочыя адразу заўважылі, што іх начальнік паводзіць сябе не так як заўсёды: чапляецца, крычыць без патрэбы, а аднаму маладому майстру нават кінуў:

— І чаму вас, ёлупаў, вучаць у інстытуце?..

Настрой у майстра быў канчаткова сапсаваны.

Прыйшоўшы раніцаю дадому і застаўшы жонку ў пасцелі, майстар раскрычаўся:

— Чаму чай не гатовы? «Укалваеш» усю ноч, як ішак, а прыйдзеш дадому—дулю!.. Пані яшчэ ў пасцелі!

Ніякія довады жонкі не памаглі: яна лягла спаць а другой гадзіне — рыхтавалася да ўрокаў (яна настаўніца), сынок неспакойна спаў — давялося да яго некалькі разоў уставаць...

І настрой настаўніцы таксама быў сапсаваны.

З ім яна і прыйшла ў школу — да вучняў пятых класаў. Рэзкі вокрык, знарок зададзеныя пытанні, каб абавязкова «злавіць», і ў выніку — дзесяткі незаслужаных «двоек» і яшчэ больш горкіх слёз, выкліканых несправядлівасцю чалавека, які быў не ў настроі...

Вось так дрэнны настрой перадаўся, як ланцуговая рэакцыя, ад аднаго чалавека да другога і прынёс з сабою шмат непрыемнага многім людзям.

Ці можна пасля гэтага сцвярджаць, што настрой — гэта нешта глыбока асабістае і нікога не датычыць?

Ці хацеў Віктар К. пакрыўдзіць пяцікласнікаў, якіх ён ніколі нават у вочы не бачыў?

Прачытаўшы гэты артыкул, Віктар можа сказаць: «Калі б я ведаў...» Безумоўна, ён не ведаў. Але ён павінен быў ведаць і, вядома, ведаў, што сваёю грубасцю крыўдзіць малалога майстра. І не меў права гэтага рабіць!

Ці мела права настаўніца ўваходзіць у клас з такім настроем?

Лепшыя настаўнікі, памятаючы, што на іх глядзяць сотні вачэй, што ў класах — сотні дзіцячых цікаўных і ўражлівых душ, узялі сабе за абавязковае правіла: «Уваходзіць у клас толькі з усмешкаю!»

І гэтая настаўніца, уваходзячы ў клас, павінна была пераадолець свой мінорны настрой.

Цяжка? Безумоўна!

Але хіба настаўніцы Ганне Ісаеўне лягчэй?

Я сяджу на задняй парце і слухаю мяккі голас гэтай невысокай, спакойнай жанчыны. Выразная дыкцыя. Прыгожая мова. Уважлівыя вочы сямікласнікаў. Відаць, яны паважаюць і любяць сваю настаўніцу. І для іх яна — самая прыгожая, хоць левае вока, больш правільна, месца, дзе было вока, туга перацягнута белай павязкай. Небяспечная хвароба на працягу многіх месяцаў, маскоўскія і ленінградскія клінікі, лепшыя прафесары, але медыцына была бяссільнай: Ганна Ісаеўна вярнулася без вока.

Уважлівая да вучняў, ветлівая да калегаў, Ганна Ісаеўна ніколі не павысіць голасу, заўсёды заступіцца, калі трэба, за таварыша, ніколі не адмовіць у дапамозе таму, хто ў гэтым мае патрэбу.

Я з добрай зайздрасцю гляджу на гэтую мужную жанчыну і ў галаву лезе здрадніцкая думка: хто-хто, а яна можа сабе дазволіць дрэнны настрой. І, уявіце, не дазваляе!

А калі ўлічыць, што вучоныя, якія працуюць у галіне касмічнай біялогіі, устанавілі, што па нервах чалавека ўзрушэнне перадаецца з хуткасцю 130 метраў у секунду, дык уявіце сабе праўдзімасць нерваў у настаўнікаў, выхавацеляў! І якія патрэбны нервы! Але... вашы нервы дзеці не павінны бачыць.

Настаўніца Ш., якая шмат год працуе ў школе, гаворыць:

— Я пасля хваробы стала «псіхам» (так і сказала: «псіхам»!) Крычу на іх, злуюся, шумлю. І заўсёды дрэнны настрой, больш правільна, я стала чалавекам настрою. Адчуваю, што трэба пакінуць школу.

Чалавек настрою... Часта сустракаючыся з ім, мы з жалем, а іншы раз і пагардаю, гаворым: «Нічога не выйдзе. Гэта— чалавек настрою!»

Хто ж ён такі?

Гэта чалавек, у якога хутка мяняецца настрой ад найменшага ўзрушэння, чалавек, які лёгка паддаецца свайму настрою і робіць усё ў адпаведнасці з ім.

Адна настаўніца была ў захапленні ад новага дырэктара. Яна яго хваліла на ўсе лады. І варта было аднойчы дырэктару ў сваім загадзе не адзначыць сярод добрых работнікаў прозвішча гэтай настаўніцы (яна сапраўды добра працавала!), і настрой яе стаў такі прыгнечаны, нібы яна панесла беззваротную страту ці перанесла цяжкую хваробу. Пра гэтую настаўніцу ў калектыве гавораць: яна—чалавек настрою.

Настрой абумоўліваецца аб'ектыўнымі прычынамі і падпарадкоўваецца аб'ектыўным заканамернасцям. Але хіба гэта выключае неабходнасць валодаць сваім настроем?

Многія пасажыры пятага маршруту тралейбуса, ведаюць кандуктара Раісу Васільеўну Закатаву — выдатнага майстра ствараць добры настрой у людзей. Прыгледзьцеся, як працуе Раіса Васільеўна: ветліва, весела, з жартамі, з прымаўкамі. І так — рэйс за рэйсам. Раніцаю, удзень, увечары. У зімовую завіруху і ў летнюю спякоту. На працягу васьмі год. Большасць пасажыраў, заходзячы ў тралейбус, з ёю вітаюцца, а выходзячы — развітваюцца. Гэта ўбачыш не ў кожным вагоне. Не-не ды і прыслухоўваюцца да вясёлай гаворкі кандуктара мінскія камвольшчыкі, якія едуць са змены, і на стомленых тварах з'яўляюцца ўсмешкі. А хіба Раісе Васільеўне заўсёды весела? Яна пражыла цяжкое жыццё, шмат горкага выпіла з жыццёвай чашы. Раіса Васільеўна гаворыць:

— Не кандуктар добры, а мае пасажыры — малайцы! Галоўнае — гэта добры настрой.

Добры настрой!

Нездарма хтосьці з мудрых сказаў: «Добры настрой — гэта каламазь для жыцця».

Правільна! Без каламазі далёка не паедзеш: калёсы будуць рыпець.

Адна мая знаёмая настаўніца — Сцепаніда Андрэеўна, чалавек энергічны, валявы, неяк расказвала:

— У маіх вучняў былі дзесяткі магчымасцей сапсаваць мне настрой. Але на працягу ўсяго года я на іх ні разу не павысіла голас. Вы ведаеце, многім памагае жарт, а іншы раз— іронія. Вяду ўрок. Бачу: на першай парце, перад маім сталом, Мілавідава, нагнуўшыся да Кудзіна, хуценька расказвае яму шэптам хатняе заданне. А Кудзін слухае на ўсе вушы. Зразумела, не вывучыў. Стала неяк непрыемна і прыкра на душы. Магла на іх накрычаць, але я гэтага не зрабіла. Павярнуўшыся да іх, я спакойна спытала: «Мілавідава, скажыце, калі ласка, вы ўжо адукавалі Кудзіна?» І клас зарагатаў. Гэта было лепшае лякарства для абаіх. І, вядома, для мяне...

Кожны з нас сотні і тысячы разоў адчуваў душэўны ўздым пры добрым настроі: і работа спорыцца, і дабрэйшыя становімся адзін да аднаго, і вочы нашы свецяцца цудоўным агеньчыкам, які міжволі запальвае тых, хто мае з намі сувязь, — і мы прыносім, самі таго не ўсведамляючы, радасць усім навокал. Бо падзеленая радасць — двайная радасць. А мы ж, савецкія людзі, — сябры, браты, таварышы!

Ёсць шмат добрых звычаяў і цудоўных слоў у нашага народа. На ад'езд мы гаворым: «Шчаслівай дарогі!»; калі заходзім, дзе людзі ядуць: «Прыемнага апетыту!»; адыходзячы ўвечары з дому: «Добрай ночы!»

А ці чулі вы калі-небудзь, каб чалавек чалавеку сказаў: «Добрага табе настрою!»

Вы ўсміхаецеся? Але ж гэта не менш важна, чым «прыемнага апетыту!»

Мне ўяўляецца, што ў недалёкай цудоўнай будучыні, дзесьці на шматлюдным аўтарытэтным сходзе ўзнімецца старшыня, сурова насупіўшы бровы, аб'явіць: «Слухаецца справа па абвінавачванню грамадзяніна Пятрова ў тым, што ён сёння, у 10 гадзін 30 мінут сапсаваў настрой таварышу Сідараву...»

Так яно і будзе! Абавязкова!

Мы будуем самае светлае жыццё на зямлі, будуем для сябе, для нашых дзяцей і ўнукаў, а без радаснага, бадзёрага, вясёлага настрою гэтага рабіць нельга.

Дык давайце ж не будзем псаваць адзін аднаму настрой.

Добрага вам настрою, людзі.

**Барыс СОКАЛ**

## Лекцыі аб савецкай маралі

Савецкае раённае аддзяленне Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў беларускай сталіцы арганізавала цыкл лекцый на тэмы «Маральны кодэкс будаўніка камунізма» і «Прыгожае — у жыццё, у быт чалавека».

Сярод лекцый — «Выхаванне новага чалавека — практычная задача камуністычнага будаўніцтва», «Роля савецкай музыкі ў камуністычным выхаванні працоўных», «Роля тэатра ў камуністычным выхаванні», «Задачы савецкага кінамастацтва ў святле рашэнняў XXII з'езда КПСС» і інш.

Увесь цыкл разлічаны на тры месяцы. Чытанне лекцый праходзіць у кінатэатры «Мір».

## У дапамогу кіраўнікам самадзейнасці

Вялікую метадычную работу ў дапамогу мастацкай самадзейнасці праводзіць Мінскі гарадскі Дом народнай творчасці. Для кіраўнікоў тэатральных, харэаграфічных, харавых калектываў пачалі працаваць семінары, кансультацыі і творчыя сустрэчы. У семінарскіх занятках прымаюць удзел заслужаны артыст БССР А. Трэпель, заслужаны дзеяч мастацтва БССР Н. Маслаў, заслужаны артыст РСФСР А. Андрэеў і іншыя.

Метадычныя заняткі працягнуцца да ліпеня.

# АДРАС: ПІНСК, гарадскі Дом культуры

З многіх гарадоў і вёсак краіны ў Пінскі гарадскі Дом культуры прыходзяць пісьмы. Аўтары іх—культасветработнікі. Пішуць людзі, кроўна зацікаўленыя ў тым, каб сродкамі культасветработы памагчы партыі ў здзяйсненні велічных планаў пабудовы камунізма.

Пішуць яны ў Пінск не выпадкова. Просьба да пінчан падзяліцца сваім багатым вопытам—вось лейтматыў гэтых пісем. А вопыт, накоплены ў невялікім гарадку на Палессі энтузіястамі культурна-асветнай работы, сапраўды багаты. Поўныя светлай рамантыкі «пінскія вечары», народжаныя героікай працы «балі пераможцаў у сацыялістычным спаборніцтве», натхнёны «марш камуністычных брыгад», радасныя «святы нашай вуліцы», задушэўныя гутаркі «ля агеньчыка»... Цяжка, бадай, пералічыць усё тое новае, патрэбнае і цікавае, што знойдзена за апошнія некалькі год людзьмі, якія любяць творчасць.

Вось ужо некалькі месяцаў на базе Пінскага гарадскога Дома культуры працуюць курсы-практыкум павышэння кваліфікацыі клубных работнікаў Брэсцкай вобласці.

Чым кіраваўся дырэктар Дома культуры заслужаны дзеяч культуры БССР І. Сакольскі, арганізатар і кіраўнік курсаў, якія працуюць, дарэчы, на грамадскіх пачатках?

— Культасветработнікі, — расказвае ён,—прыязджалі да нас і раней. Мы праводзілі аднадзённыя семінары, чыталі даклады. І, шчыра кажучы, самі заставаліся незадаволенымі. Адчувалася, што ў дакладзе, няхай самым змястоўным, не раскажаш пра ўсё, што трэба ведаць і ўмець культасветработніку. Патрэбна нешта іншае, новае. Так нарадзілася думка аб стварэнні абласных курсаў. У лістападзе мінулага года Пінскі Дом культуры прыняў першую групу курсантаў. Цэлы месяц яны былі гаспадарамі Дома культуры, вывучалі вопыт яго работы, дзейнасць, прымалі ўдзел ва ўсіх яго пачынаннях, перажываючы і радасць поспехаў і няўдачы. Аддавалася вялікая ўвага не толькі да падбору тэматыкі лекцый з улікам запатрабаванняў насельніцтва, але і да арганізацыі слухачоў.

Слухачы курсаў прынялі ўдзел у складанні сцэнарыя чарговага «балю пераможцаў», у афармленні і правядзенні яго, цікавячыся кожнаю дэталлю рабочага свята, пачынаючы з вырабу нагруднай эмблемы і да развітальнага марша пры закрыцці вечара.

Прынялі курсанты актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні «марша камуністычных брыгад», папярэдне добра ўявіўшы яго ідэю—перадача працоўнага і жыццёвага вопыту разведчыкаў будучыні.

Шырокая і змястоўная праграма курсаў. Бібліятэчная справа, правядзенне канферэнцый чытачоў і дыспутаў, работа гурткоў і музычная грамата, тэхніка фатаграфіі, знаёмства з жывапісам і кінамастацтвам—усё гэта знайшло належнае месца ў праграме. Курсанты становяцца ўдзельнікамі рэпетыцый народнага драматычнага тэатра, ансамбля палескай песні і танца, знаёмяцца з абсталяваннем клубнай сцэны, дэкарацыямі, рэквізітам, бутафорыяй, самі арганізоўваюць канцэрты мастацкай самадзейнасці. Несумненна, усё гэта спатрэбіцца ў іх штодзённай практыцы.

У Пінск прыходзяць пісьмы ад былых курсантаў, цёплыя, задушэўныя вестачкі аб тым, што час, праведзены на курсах, не страчаны марна. З вёскі Мальковічы Ганцавіцкага раёна паведамляюць, што нядаўна там праведзен цікавы вечар на тэму «Кім быць?» і веснавы «штапельны баль». Вечары, задуманыя ў свой час на курсах, праводзяцца ў сельскіх клубах Столінскага, Драгічынскага, Камянецкага, Кобрынскага раёнаў.

Цяпер на курсах пры Пінскім Доме культуры навучаецца чацвёрты набор. Агульная думка слухачоў: курсы-практыкум неабходны хоць бы ўжо таму, што многія сельскія культасветработнікі яшчэ не маюць спецыяльнай адукацыі.

Думаецца, ёсць сэнс упраўленням культуры іншых абласцей рэспублікі стварыць падобныя курсы на базе лепшых культасветустаноў, якія сталі б своеасаблівымі школамі перадавога вопыту культасветработы.

**І. АГРАНОЎСКІ,**
**Д. ДУДКО.**

## НОВАЯ РАБОТА КУПАЛАЎЦАЎ

Днямі Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паказаў свой новы спектакль па драме К. Сіманава «Чацвёрты», які выкрывае амерыканскі вобраз жыцця. Рэжысёр спектакля Б. Эрын, мастацкае афармленне заслужанага дзеяча мастацтва БССР А. Грыгар'янца. Музыку да спектакля напісаў М. Карэтнікаў.

У спектаклі заняты народныя артысты БССР Л. Рахленка, С. Бірыла, З. Стома, заслужаныя артысты БССР М. Федароўскі, П. Пекур, Т. Аляксеева, В. Краўцоў, М. Яроменка, артысты Г. Талкачова, В. Тарасаў, Б. Уладамірскі, Ю. Шумакоў, Г. Арлова і іншыя.

Пасля спектакля адбылася сустрэча артыстаў тэатра з аўтарам п'есы К. Сіманавым.

## *Упершыню ў Волгаградзе*

Сардэчна сустрэлі волгаградцы беларускіх спевакоў і танцораў, якія ўпершыню прыехалі сюды на летнія гастролі. На вакзале адбыўся мітынг, на якім прадстаўнікі партыйных і грамадскіх арганізацый віталі дарагіх гасцей.

Спектаклем «Чарадзейка» адкрыліся гастролі Беларускага тэатра оперы і балета. Паказаны ўжо таксама «Лебядзінае возера» і «Фауст».

Група артыстаў наведала Волгарадскі трактарны завод імя Дзяржынскага і дала там канцэрт.

Спектаклі тэатра карыстаюцца поспехам у волгаградцаў.

(Наш кар.).

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ

У клубе цагельнага завода № 4 па ініцыятыве масавай бібліятэкі № 1 Кастрычніцкага раёна горада Мінска ў нядзелю было наладжана свята беларускай кнігі, прысвечанае 80-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы. На сустрэчу з чытачамі прыехалі пісьменнікі П. Пестрак, В. Вітка, Ул. Карпаў, С. Шушкевіч, М. Хведаровіч, А. Астрэйка, А. Махнач, Ул. Мехаў, дырэктар Літаратурнага музея Я. Коласа Д. Міцкевіч, заслужаны дзеяч культуры БССР А. Слесарэнка. Была праведзена літаратурная віктарына па творах Я. Купалы і Я. Коласа.



Пісьменнік П. Пестрак дае аўтограф. Фота Ул. КРУКА.

# ЧАСОПІСЫ Ў ЧЭРВЕНІ

## «ПОЛЫМЯ»

Нумар адкрываецца вершаваным нарысам Антона Бялевіча «Запольская чараўніца»—аб знатнай звеннявой Еве Карачан з калгаса «Новае жыццё» Гродзенскай вобласці.

«Дзесяць мінут паэзіі» — так назваў нізку сваіх новых вершаў Васіль Вітка. З твораў мастацкай прозы надрукаваны апавяданне Янкі Скрыгана «Месячная ноч» і заканчэнне рамана Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць».

Да 80-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы ў часопісе змешчаны артыкул Максіма Лужаніна «Шляхам жыцця». Пад рубрыкай «З літаратурнай спадчыны» — вершы Якуба Коласа, розных гадоў, якія раней не публікаваліся, а таксама аўтабіяграфія беларускага пісьменніка Міхася Зарэцкага.

Надрукаваны ў нумары запіскі былога аператыўнага работніка І. Янушкі, артыкулы Я. Казекі і Р. Шкрабы, у якіх разглядаецца творчы шлях І. Мележа і асабліва падрабязна — яго раман «Людзі на балоце».

У раздзеле «Бібліяграфія» — рэцэнзіі: С. Грахоўскага—на кнігу Я. Хелемскага «Перакладаю вершы таварыша», А. Адамовіча — на зборнік артыкулаў Р. Бярозкіна «Спадарожніца часу» і М. Модэля — на даследаванне Ул. Няфёда «Сучасны беларускі тэатр (1946 — 1959)».

## «МАЛАДОСЦЬ»

У чэрвеньскім нумары часопіса надрукавана аповесць Міколы Ваданосава «Кветкі застаюцца з табою» — з жыцця вясковай моладзі, апавяданні Паўла Ткачова «Мой сябар — Міхась» і Аляксандры Ус «На конкурс прыгажунь».

Змешчаны падборкі вершаў Рамана Тармолы, Еўдакіі Лось, Алеся Булыкі, Анатоля Канапелькі і вершы Рыгора Семашкевіча і Івана Ралько.

80-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы прысвечаны цікавыя ўспаміны Кастуся Пуроўскага «Даўняе, але незабыўнае».

Разнастайныя матэрыялы з жыцця рэспублікі змешчаны ў раздзеле «На арбіту камунізма».

Пра мужнасць і гераізм моладзі ў гады Айчыннай вайны гаворыцца ў артыкуле былога сакратара Чэрыкаўскага падпольнага райкома КПБ Г. Храмовіча «Прыгоды Алёшы-разведчыка».

У раздзеле «Размова аб майстэрстве» друкуецца артыкул Анатоля Сабалеўскага «Драматургія малая — непаладкі вялікія».

Часопіс друкуе рэцэнзіі В. Каваленкі на кнігу апавяданняў і аповесцей Барыса Сачанкі «Барвы ранняй восені», В. Тараса на кнігу вершаў Фёдара Яфімава і Ул. Юрэвіча на кнігу А. Адамовіча «Беларускі раман».

## «БЕЛАРУСЬ»

Нумар адкрываецца артыкулам М. Савіча «Першыя крокі» — аб першых днях работы Слуцкага вытворчага калгасна-саўгаснага ўпраўлення. Змешчаны таксама нарысы В. Праскурава «Працай прыгожы чалавек», «Дзеля шчасця на зямлі» А. Суслава, «Камуніст» П. Шаўцова, гутарка са старшынёй Гродзенскага абласнога выканкома дэпутатаў працоўных М. Малочкам «Над нёманскімі кручамі» і іншыя матэрыялы.

З мастацкай прозы часопіс друкуе ўрывак з новага рамана Івана Шамякіна, быль Барыса Стральцова «Заклад у Більгудзі», апавяданне Янкі Шарахоўскага «У палёце», замалёўку Уладзіміра Ляўданскага «Складаная сітуацыя» і гумарэску Міхася Скрыпкі «Дзесятае пытанне».

Паэзія прадстаўлена на старонках часопіса вершамі Анатоля Астрэйкі, Алега Лойкі, Кастуся Кірэнкі, Сяргея Грахоўскага, Міколы Хведаровіча, Міколы Макаева і падборкай «З балгарскай паэзіі».

З літаратурна-крытычных матэрыялаў часопіс змяшчае артыкул Івана Кудраўцава «Пра час і пра сябе» — пра кнігу Петруся Броўкі «А дни идут...», кароткія рэцэнзіі І. Жыдовіча на раман Ул. Карпава «Вясеннія ліўні», М. Досіна— на кнігу А. Сінілава «Сцежкамі Прынёмання» і Д. Бугаёва — на кнігу А. Крывіцкага «Сучасная беларуская літаратурная мова і народныя гаворкі».

Чытач знойдзе ў часопісе рад пазнавальных матэрыялаў.

